*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*Францішак БАГУШЭВІЧ*




# НАША СЛОВА

Штотыднёвая газета (Выходзіць з сакавіка 1990 г.) ◈ 12(68) ◈ 25 сакавіка 1992 г. ◈ Кошт 20 кап. (Па падпісцы — 10 кап.)

## ПОСТУП ТЫДНЯ

НА СЕСІІ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ ПРЫНЯТЫ ПАСТАНОВЫ, ЯКІЯ АДАБРАЮЦЬ У ПЕРШЫМ ЧЫТАННІ АСНОЎНЫЯ ПАЛАЖЭННІ БЛОКА ЗАКОНАЎ, ШТО ВЫЗНАЧАЮЦЬ ВАЕННУЮ ПАЛІТЫКУ СУВЕРЭННАЙ ДЗЯРЖАВЫ. Мяркуецца, што на першым этапе ў нас будзе армія ў колькасці 90-100 тысяч чалавек. Намечана значна пашырыць магчымасці паступлення на кантрактную службу, дапускаецца таксама магчымасць увядзення альтэрнатыўнай.

*ВАЕННЫЯ ПЫТАННІ БЫЛІ Ў ЦЭНТРЫ ЎВАГІ І НА НАРАДЗЕ ЛІДЭРАЎ ДЗЯРЖАЎ — ЧЛЕНАЎ СНД У КІЕВЕ.* Выказвалася думка, што гэтая сустрэча будзе пераломнай. Аднак надзеі не спраўдзіліся. Так, Украіна не прыняла ўдзелу ў падпісанні дакументаў, якія звязаны з Аб'яднанымі ўзброенымі сіламі. Не дамовіліся прэзідэнты і аб тым, які павінен быць узнос кожнай дзяржавы на ўтрыманне войска. Аднак ёсць і станоўчая ацэнка вынікаў нарады — усё ж яны больш значныя, чым былі раней, на папярэдніх сустрэчах. Становішча, якое склалася ў Садружнасці, павінна, як мяркуюць, праясніцца на наступнай нарадзе, у Ташкенце.

ПА ПРАБЛЕМАХ РАЗВІЦЦЯ ДВУХБАКОВЫХ АДНОСІН ПАМІЖ БЕЛАРУССЮ І ЗЛУЧАНЫМІ ШТАТАМІ АМЕРЫКІ ПРАВЕЎ ПЕРАГАВОРЫ Ў ВАШЫНГТОНЕ МІНІСТР ЗАМЕЖНЫХ СПРАЎ РЭСПУБЛІКІ ПЕТР КРАЎЧАНКА. Ен сустракаўся з Прэзідэнтам ЗША Джорджам Бушам, дзяржаўным сакратаром Джэймсам Бейкерам, іншымі дзяржаўнымі дзеячамі. Аб прадастаўленні Беларусі крэдыту вялася ім гаворка з кіраўніцтвам Сусветнага банка, штаб-кватэра якога размешчана ў амерыканскай сталіцы.

*СТАРШЫНЯ БЕЛАРУСКАГА НАЦЫЯНАЛЬНАГА БАНКА СТАНІСЛАЎ БАГДАНКЕВІЧ ДАВОЛІ КРЫТЫЧНА АЦАНІЎ УВЯДЗЕННЕ КУПОНАЎ, НАЗВАЎШЫ ГЭТЫ КРОК ПАМЫЛКАЙ.* Аднак поўная іх адмена ў рэспубліцы не плануецца. Наадварот, намечана замяніць «аднаразовыя» купоны «многаразовымі». С. Багданкевіч лічыць пакуль немэтазгодным увядзенне ўласнай валюты.

З 12 САКАВІКА НЕ ПРАЦУЮЦЬ ШАХЦЕРЫ САЛІГОРСКА. ЯНЫ ПАТРАБУЮЦЬ ЗАБЯСПЕЧЫЦЬ ІМ АТРЫМАННЕ МІНІМАЛЬНАЙ ЗАРПЛАТЫ, УСТАНОЎЛЕНАЙ УРАДАМ, І ГАРАНТАВАНАЙ ДАПАМОГІ ПРЫ ЗВАЛЬНЕННІ ПА СКАРАЧЭННЮ ШТАТАЎ. ЦЯПЕР ПРАФСАЮЗ ГАРНЯКОЎ РЫХТУЕЦЦА АРГАНІЗАВАЦЬ У БЕЛАРУСІ ЎСЕАГУЛЬНУЮ ЗАБАСТОЎКУ.

## *Успомнім добрым словам*



*25 сакавіка 1918 года*



## «Ад гэтага часу...»

У календарах не пазначана гэта дата. Мо таму, што не юбілейны год, а мо не заўважылі проста з-за мітусні будзённай. Хоць 25 сакавіка 1918 года здарылася падзея надзвычайная. З'явілася на свет Другая Статутная Грамата Беларускай Народнай Рэспублікі. Учытайцеся ў яе змест: «Год таму назад народы Беларусі, разам з народамі Расеі, скінулі ярмо расейскага царызму, якое найцяжэй з усіх прыдушыла Беларусь; ня пытаючыся народаў, ён кінуў наш край у пажар вайны, якая дашчэнту зруйнавала гарады і вёскі беларускія. Цяпер мы, Рада БНР, скідаем з роднага краю апошняе ярмо дзяржаўнай залежнасьці, якое было накінутае расейскім царызмам на наш вольны і незалежны край.

Ад гэтага часу Беларуская Народная Рэспубліка абвяшчаецца незалежнай і вольнай дзяржавай. Самі народы Беларусі, у васобе свайго Устаноўчага сойму, пастановяць аб будучых дзяржаўных сувязях Беларусі.

БНР павінна абняць усе землі, дзе жыве і мае лічбовую перавагу беларускі народ, а ўласьне: Магілёўшчыну, беларускія часьці Меншчыны, Віленшчыны, Гарадзеншчыны, Віцебшчыны, Смаленшчыны, Чарнігаўшчыны і сумежныя часткі суседніх губерняў, заселеных беларусамі.

БНР пацьвярджае ўсе тыя правы і вольнасьці грамадзян і народаў Беларусі, якія абвешчаныя Устаўной Граматай ад 9-га сакавіка 1918 году.

Абвяшчаючы аб незалежнасьці БНР, Рада яе ўскладае свае надзеі на тое, што ўсе любячыя волю народы памогуць беларускаму народу ў поўнай меры зьдзейсьніць яго палітычна-дзяржаўныя ідэалы».

Ідэалы пакуль не здзейснены. Хаця і абвешчаны дзяржаўны суверэнітэт Рэспублікі Беларусь.

Звярніце свае позіркі ў мінуўшчыну. Адкідваючы догмы і суб'ектыўны палітычны пыл, аддайце даніну павагі і памяці старонкам гісторыі Беларускай Народнай Рэспублікі. Барацьбіты за яе ўтварэнне жылі болем, трывогай беларускага народа. Лёсікам, Смолічам, Кандратовічам, Ластоўскім і многімі іх паплечнікамі кіравала жаданне здабыць свабоду, волю сапраўдную для роднай старонкі. Ушануем жа іх памяць добрымі справамі.

Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.

**У майстэрні пісьменніка Уладзіміра Дубоўкі.**

Стар. 5

**Дзіўна іншае: як насельніцтву ўдалося ўсё ж захаваць уласныя мову, культуру, народнае мастацтва?**

Стар. 3

Віктар ШНІП

## *Воля*

*Не Богам дадзеная Воля,*
*Не ў д'ябла куплена за грош.*
*Вятры народжаны у полі,*
*Народжаны ў нябёсах Дождж.*
*Да Храма белага дарога,*
*Да пачарнелага крыжа,*
*З якога людзі знялі Бога,*
*І вольна лётае душа.*
*І мы ідзём яшчэ нясмела,*
*Яшчэ баімся чорных крат.*
*Але пад бел-чырвона-белым*
*Ідзём наперад, не назад.*
*І Дождж змывае пыл і сажу*
*З дамоў, людзей, з святых ікон.*
*І мы у Волю верым нашу,*
*Хоць многім Воля шчэ, як сон.*
*І вольныя Вятры у полі*
*Шумяць пра шчасце і любоў...*
*Не Богам дадзеная Воля*
*У Краі вечных курганоў.*

ЧЫТАЛІ?

### І КАНСАЛІДАЦЫЯ НЕ ЎРАТУЕ...

ЗБОР подпісаў за правядзенне рэферэндуму аб недаверы беларускаму парламенту падштурхнуў частку дэпутатаў да стварэння аб'яднання «Беларусь». «Вось яны — збавіцелі ад роспуску ўлады»,— падумалі некаторыя. Аднак назаўтра, як піша Зянон Пазьняк у сваёй рэпліцы, якую апублікавала «Народная газета», быў надрукаваны спіс дэпутацкага аб'яднання, і ўсе ўбачылі, што там — вой-ёй-ёй — знаёмая камуністычная наменклатура. Паспяховы збор подпісаў прымушае «моршчыць лоб» і Станіслава Шушкевіча, якога некалі падтрымліваў Народны фронт і які «потым ціха здрадзіў дэмакратычнаму руху». Але цяпер ужо, гаворыцца ў рэпліцы, ніякая кансалідацыя праціўнікаў рэферэндуму не ўратуе.

А. С.

# У Цверы — беларуская школа



Яшчэ адна беларуская нядзельная школа пачала сваю працу за межамі Беларусі. На гэты раз — у Цверы. А зроблена гэта на базе гарадской СШ № 17 намаганнямі Прыазёрскай гарадской рады ТБМ імя Ф. Скарыны і Цверскай суполкі БЗВ.

На першых занятках прысутнічала 10 дзяцей і 7 дарослых. Але ўжо ёсць упэўненасць, што колькасць вучняў пабольшае: расце цікаўнасць да школы.

Першы ўрок правёў кандыдат ваенных навук палкоўнік Вінцэнт Чорны. Беларускую мову і літаратуру выкладае падпалкоўнік Станіслаў Суднік.

Адкрыццё школы ўскалыхнула беларускае грамадскае жыццё ў Цверы. Па выказваннях многіх афіцэраў—сяброў мясцовай суполкі БЗВ — яе стварэнне з'яўляецца «лепшай справай жыцця за ўвесь час вайсковай службы».

За межамі Беларусі мова Францішка Скарыны шырыць абсягі свайго ўжытку. А што ж робіцца-дзеецца дома? Вось што піша свайму настаўніку Станіславу Судніку адна з былых вучаніц Прыазёрскай беларускай нядзельнай школы (дзяўчынка пераехала ў Менск, імя яе мы не называем, каб не пашкодзіць у школьных справах): «Паважаны Станіслаў Вацлавіч! Яшчэ раз выказваю Вам шчырую падзяку за веды, якія я атрымала ў нядзельнай школе. Сёння быў першы ўрок беларускай мовы ў новай чвэрці. Я ўбачыла, што мае веды не горшыя, чым у большасці вучняў. Тое, што яны вучылі 8 гадоў, я, дзякуючы Вам, пазнала ўсяго за адзін год. У менскай агульнаадукацыйнай школе ўрокі беларускай мовы ў сто разоў горшыя, чым вашы. Настаўніца тут зусім не цікавіцца сваім прадметам, а на перапынках размаўляе па-расійску. Сапраўдную гісторыю Беларусі ў маёй школе не вывучаюць... А пра Рагнеду тут амаль і не чулі...»

**(Наш карэспандэнт).**

**На здымку:** ідуць заняткі ў беларускай нядзельнай школе ў г. Цвер.

*З рэдакцыйнай пошты*

# З ЧЫМ ІСЦІ?

ШАНОЎНЫ спадар Ялугін! З вялікай цікавасцю чытаю «Наша слова» з першых дзён яго існавання. І Ваш артыкул (адказ на ліст сп. Бруя, газета № 5 за 1992 год) прачытала з асаблівай увагай. Сказаць па шчырасці, не зусім згодна з Вашымі аргументамі супраць «тарашкевіцы», хоць я далёка не равесніца тым «маладым літаратарам, якія з дапамогай эпатажу прагнуць звярнуць на сябе ўвагу».

Я, настаўніца замежнай і беларускай моў, вывучала калісьці ў школе ў Заходняй Беларусі граматыку Тарашкевіча і лічу, што, адступіўшы ад «тарашкевіцы», мова наша страціла і страчвае тыя фанетычныя асаблівасці, якімі яна адрозніваецца ад іншых славянскіх моў.

Згодна з тым, што на спецыфіку вымаўлення беларускай мовы паўздзейнічалі не толькі рэформы правапісу. Не без уплыву рускай арфаэпіі сёння беларусы (асабліва гарадскія) згубілі ці загубілі... «і звонкае «дзе» і «густое «чаго»,— як пісаў Пімен Панчанка, а таксама страцілі... «мяккасць, мілагучнасць, далікатнасць у словах радасьць, песьня, шчырасьць, вясельле» — аб чым не раз гаварыў Фёдар Янкоўскі.

Сёння, на жаль, ні радыё, ні тэлебачанне, ні нават тэатр імя Янкі Купалы не з'яўляюцца ўзорам нормы літаратурнага вымаўлення, далёка адышлі яны ад жывой, народнай моўнай крыніцы. І адступленне ад правапісу па граматыцы Тарашкевіча адыграла ў гэтым не апошнюю ролю.

Я не буду спыняцца на ўсіх правілах правапісу, а толькі на тым, якое закранулі Вы ў сваім артыкуле — гэта мяккі знак («ь») у пазіцыі перад наступным мяккім складам. Дык вось, выкінуўшы «ь» на пісьме, яго паступова страцілі і пры вымаўленні. Напрыклад, у словах: смех, знічка, лазня, поспех, ззянне і інш.

| замест: | | гавораць: |
|---|---|---|
| [с′] [м′] [э] [х] | — | [с] [м′] [э] [х] |
| [з′] [н′] [і] [ч] [к] [а] | — | [з] [н′] [і] [ч′] [к] [а] |
| [п] [о] [с′] [п′] [э] [х] | — | [п] [о] [с] [п′] [э] [х] |
| [л] [а] [з′] [н′] [а] | — | [л] [а] [з] [н′] [а] |
| [з′] [з′] [а] [н′] [н′] [э] | — | [з] [з′] [а] [н] [н′] [э] |

А па аналогіі сталі вымаўляць з цвёрдым прыступам і тыя зычныя, пасля якіх на пісьме захоўваецца «ь». Напрыклад, замест пісьменнік — гавораць [пісменнік], возьмеш — [возмеш], дзьмеш — [дзмеш], дзесьці — [дзесці], у цьме — [у цме], калісьці — [калісці].

Калі б захаваўся «ь» на пісьме і перад мяккім складам (сьнег, сьведка), не дайшлі б да такога скрыўленага вымаўлення, якое рэжа вушы сваёй ненатуральнасцю «звышінтэлігентнасцю», як гэта называюць вясковыя школьнікі.

Дык хто ж тут больш правы наконт вяртання мяккага знака на пісьме: шапялявыя ці сапялявыя?

Што датычыцца звароту да «тарашкевіцы» нефармальных выданняў, то (на маю думку і не толькі на маю) прадстаўнікі Народнага фронту звярнуліся да яе не толькі, каб зрабіць «выклік былым партыйным багам». Яны першыя праявілі сябе як сапраўдныя патрыёты нашай Радзімы, мовы і гісторыі. Яны, адносна другіх, больш празорлівыя, рашучыя не толькі ў пытаннях адраджэння роднай мовы, але і палітыкі наогул. Доказ гэтаму — жывыя факты, ды не тут аб іх гаварыць.

І яшчэ. Як я разумею, у наш далёка не лёгкі для беларусаў час, калі парасткі Адраджэння толькі-толькі прабіваюцца, лепш было б нам, прыхільнікам беларусізацыі, неяк дружней зліваццa ў адзіны паток, падтрымліваючы адзін аднаго, кансалідаваць свае сілы ў барацьбе за адзіную мэту — адраджэнне Бацькаўшчыны. А мы, на радасць нашым нядобразычліўцам,— хто куды. Спрэчкі, вядома, патрэбны. Але без абразы, без крыўды. Нашто, скажам, парывы маладых сіл называць скандальнымі ці, далікатней, эпатажам толькі за тое, што яны аспрэчваюць ранейшы правапіс і гэтым самым хочуць уваскрэсіць страчанае, насільна знішчанае? Толькі за тое, што яны смялейшыя за старэйшае пакаленне? А розніца, як абазваць чалавека: інфекцыяй ці проста заразай,— невялікая.

І ці варта сёння рэдактару «Нашага слова» іранізаваць над фанетычнай спецыфікай роднага слова, скланяючы мяккі знак, ад якога слова «нібы размякае», «набрыньвае залішняй вільгаццю», «набывае нейкі азіяцкі акцэнт, гучыць блізка да сімвала кітайскага камуністычнага монстра — Цянь-ань-мынь»?

На Ваша пытанне: «Ці праўда?» — адказваю.— Няпраўда! Наша слова не «вільготнае» і «размяклае», а мяккае і мілагучнае. Яно нам пакінута такое ў спадчыну нашымі бацькамі і... прадзедамі. А спадчыну мы павінны цаніць і берагчы па-купалаўску.

А па якому шляху нам сёння ісці (адносна правапісу) — азіяцкаму ці еўрапейскаму — то трэба перш падумаць: з чым ісці? З тымі «абрубкамі» беларускай мовы, да чаго давялі інтэрнацыянальныя рэфарматары, мабыць, і з месца не зрушымся.

Так што, даруйце, паважаны Эрнэст Васільевіч, але я на баку А. Бруя і згодна з Вамі толькі ў тым, што перайсці на «тарашкевіцу» «Нашаму слову» няма яшчэ тэхнічнай магчымасці.

Вольга Іванаўна **ПЯСТУН.**
Мядзельскі раён.

***АД РЭДАКЦЫІ:** У лісце шаноўнай Вольгі Іванаўны ёсць свая адметнасць, ён напісаны моваведам — настаўнікам з вялікім стажам, таму мы друкуем яго без рэдагавання. Зноў не абышлося без папрокаў у мой адрас толькі за тое, што я пераказаў меркаванні, якія ёсць у пэўнай частцы нашай творчай інтэлігенцыі. Але ж іх таксама трэба ведаць і ўлічваць.*

***Незразумела, як можна берагчы спадчыну «па-купалаўску».***

***Але на што асабліва варта звярнуць увагу: аўтар ліста, прыводзячы шмат прыкладаў, калі і мяккі знак не дапамагае, міжволі сведчыць: з вымаўленнем адбылоя тое, з чым давядзецца лічыцца. Дарэчы, і ў расійскай мове вымаўленне далёка не супадае з напісаннем.***

***Што да ўжывання знакаў у адпаведнасці з колькасцю гукаў, то яны не супадаюць у пераважнай большасці сучасных моў, і гэты працэс, па ўсім відаць, будзе працягвацца, і сілай яго не спыніць. Ды і ці варта? Урэшце, паглядзіце ўважліва старыя іконы праваслаўных хрысціян — як на іх напісана святое імя — Ісус Хрыстос, і вы многае зразумееце.***

*Эрнэст **ЯЛУГІН.***

# Дзе і што?

*Камітэт па справах моладзі Луганскай абласной рады народных дэпутатаў правёў «круглы стол» з прадстаўнікамі партый, рухаў, грамадскіх аб'яднанняў па пытанні фінансавання праграмы «Маладзёжны адпачынак і турызм». Функцыі колішняга камсамола, які праводзіў фінансаванне маладзёжных свят, перайшлі да абласной рады. На рэгіянальную канферэнцыю «50 год падпольнай маладзёжнай арганізацыі «Маладая гвардыя» даецца каля 100000 рублёў. Пра адраджэнне ўкраінскай мовы, культуры, гісторыі ў дакументах Камітэта па справах моладзі нічога не гаворыцца.*

* * *

***Згодна з афіцыйнай заявай ветэрынарнай інспекцыі, у Марыупалі Данецкай вобласці зарэгістраваны выпадкі продажу тушак абдзёртых кошак, якія выдаваліся за трусіныя.***

* * *

**Усім, хто едзе ў Швейцарыю, хочацца параіць: бярыце з сабою металічныя рублі з выявай Леніна. Справа ў тым, што швейцарскія разменныя аўтаматы мяняюць яго на пяць швейцарскіх франкаў. Адзін франк адпавядае прыкладна 100 рублям.**

* * *

**Група дэпутатаў — рабочых Наваполацка выступіла з ініцыятывай правядзення гарадской канферэнцыі рабочых. На ёй мяркуецца абраць сваю раду, якая самастойна або ў кантакце з мясцовымі органамі ўлады, іншымі грамадскімі фарміраваннямі магла б адстойваць правы і інтарэсы рабочых. Кантактавы тэлефон у Наваполацку: 59-8-05.**

* * *

*У Санкт-Пецярбургу створана Расійская нацыянальна-вызваленчая партыя. Яе мэта — дамагацца стварэння ўнітарнай дзяржавы. Эмблема — трохпрамянёвая свастыка.*

(ВІС)

# Пабольш бы такіх!

*Неяк вечарам мне давялося ехаць у трамваі. Зайшоў у салон, сеў і... раптам пачуў па гучнагаварыцелю: «Асцярожна, дзверы зачыняюцца, наступны прыпынак...» Спачатку не паверыў сваім вушам (усё ж такі гэта — вялікая радасць!), а потым кінуўся да кабіны вадзіцеля, каб даведацца, хто і адкуль гэты чалавек, адзін з нямногіх, што размаўляюць па-беларуску.*

*Высветлілася, што Іван Васільевіч Усціновіч (так звалі вадзіцеля) нарадзіўся ў Баранавічах у 1948 годзе. Закончыўшы ў сябе на радзіме школу, прыехаў у Менск — працягваць вучобу.*

*У нашым горадзе Іван Васільевіч паступіў у прафтэхвучылішча пры МТЗ. Пасля яго заканчэння пайшоў працаваць на гэты завод. Ды, відавочна, прафесія слесара прыйшлася яму не даспадобы. І вось зусім нядаўна Іван Васільевіч звольніўся з МТЗ і авалодаў прафесіяй вадзіцеля трамвая.*

*І дома і на працы Іван Васільевіч гаворыць толькі па-беларуску.*

Сяргей **ПЕТРЫКЕВІЧ,**
**вучань 7-га класа.**

# Хай вырашае аўтар

**У друку ўсё часцей пачалі закранаць праблему адраджэння ў рэспубліцы нашай роднай беларускай мовы. І шмат слушнага падказалі пісьменнікі, журналісты, вучоныя-філолагі, простыя чытачы.**

**Калісьці і я напісаў у адну рэспубліканскую газету: у беларускамоўнае выданне чытачы павінны звяртацца, пісаць свае матэрыялы толькі на беларускай мове. Гэта прымусіць аўтараў звярнуцца да сваёй мовы. Але з рэдакцыі я атрымаў адказ, што, маўляў, на якой мове пісаць аўтару — вырашаць яму самому. Гэта яго асабістая справа!**

**Як жа мы пачнём прывучаць людзей да роднай мовы, калі ўжо нават у такім пытанні даём патолю?**

**Асабіста ў мяне ёсць два расійска-беларускія слоўнікі. Мог і гэты ліст напісаць калі не на добрай беларускай мове, то ўжо напэўна блізкай да такой. Але вырашыў пачакаць...**

**А, магчыма, я сапраўды стаўлю перад аўтарамі жорсткія ўмовы?**

**З павагай** **Алег БРАНКОЎСКІ,**
**рабочы «Гомсельмаша».**

**АД РЭДАКЦЫІ: Як бачыце, і мы не выкідаем лісты, напісаныя на расійскай мове, а толькі іх перакладаем, бо ў нас такое правіла. Спадзяёмся, што наступны ліст Вы напішаце на беларускай мове: трэба ж некалі пачынаць. А як прывучыць да роднай мовы?.. Калі ж сам беларус не хоча чалавекам звацца, то хоць кол яму на галаве чашы! А да таго ж, як Вы пішаце, «простыя чытачы» клапоцяцца пра адраджэнне роднай мовы — зрух відавочны!**

*Як выконваецца Закон аб мовах*

# ПАСТАНОВЫ І РЭАЛЬНАСЦЬ

***Апошнім часам некаторыя раённыя газеты Гродзеншчыны пачалі выходзіць пад новымі назвамі. Ранейшыя, ідэалагізаваныя назвы саступілі месца іншым, вызваленым ад слоў «камунізм», «кастрычнік», «запаветы», «Ільіч», «савецкі».***

Замест былой ваўкавыскай, напрыклад, «Знамя Октября» сёння выходзіць «Наш час». З'явіліся «Воранаўская газета», «Свіслацкая газета», «Ашмянскі веснік», «Іўеўскі край». Сярод заснавальнікаў цяпер трывала замацаваліся рай- і гарвыканкамы.

Наўмысна зрабіў пералік менавіта гэтых выданняў. Бо яны друкуюцца на рускай мове. Праўда, пэўныя матэрыялы змяшчаюцца і на дзяржаўнай мове рэспублікі. Але ў працэнтных адносінах гэта мізэр. Такі вывад можна зрабіць, пагартаўшы старонкі газет вобласці за апошнія два гады. Заўважаецца, што ёсць рэдактары, якія ахвотна аддаюць плошчу выданняў беларускамоўным публікацыям, як, напрыклад, рэдактар «Воранаўскай газеты» М. П. Трушко. Гэта газета рэгулярна выдае старонку «Жывое слова». Нязменна друкуецца ў газеце настаўніца беларускай мовы і літаратуры Юзэфа Станіславаўна Вайгеніца.

Зазначу, што ў Воранаўскім раёне, згодна з статыстычнымі даведкамі апошняга перапісу, беларусамі назвала сябе 10,9 % жыхароў, палякамі — 82,9 %, рускімі — 3,2 %. Дзе ж логіка, што раённая газета рускамоўная?

Дарэчы, можна пачуць і такія развагі. Маўляў, Гродзеншчына — край інтэрнацыянальны, таму руская мова тут — сродак міжнацыянальных зносін. Звернемся да статыстыкі. У агульнай колькасці насельніцтва вобласці беларусы складаюць 60,3 %, палякі — 26,9 %, рускія — 10,7 %. Беларускую мову роднай прызнаюць амаль 600 тысяч грамадзян з ліку беларусаў, 187 335 палякаў, 5 076 рускіх. Цікавы той факт, што свабодна валодаюць беларускай мовай, згодна з апошнім перапісам насельніцтва, 57 158 палякаў, а беларусаў — 50 873 чалавекі. Ёсць над чым паразважаць. З рускамоўнага насельніцтва свабодна валодаюць беларускай мовай 30 581 чалавек.

Але вернемся да газет, якія выходзяць на рускай мове. Іх на Гродзеншчыне шэсць, а сёмая, абласная, выходзіць у Гродне. І гэта нягледзячы на тое, што абласной праграмай «Родная мова» прадугледжвалася яшчэ да 1 ліпеня 1990 года (!) вырашыць пытанне аб пераводзе часткі тыражу «Гродненской правды» на беларускую мову. Дык чаго чакаюць? Баяцца за тыражы? Прыведзеныя вышэй лічбы яскрава сведчаць: кіраўнікі органаў прэсы дарэмна непакояцца.

У Пастанове Савета Міністраў РБ «Аб дзяржаўнай праграме развіцця беларускай мовы і іншых нацыянальных моў у Рэспубліцы Беларусь» гаворыцца: лічыць мэтазгодным перавесці з рускай мовы выданні на беларускую раённыя і абласныя газеты...

З верасня 1990 года вады сплыло нямала, а воз пакуль не зрушыў з месца, у прыватнасці, у нас на Гродзеншчыне.

Прыгадваюцца радкі з допісу С. Шышко, які надрукавала газета «Наш час» (Ваўкавыск). Аўтар піша, што яшчэ два гады назад суполка ТБМ ставіла пытанне аб пераводзе выдання на беларускую мову. дык чаму раптам газета аб'явіла сябе двухмоўнай — руска-беларускай? А чаму не трохмоўнай? У раёне ж жыве шмат палякаў. Цікава і тое, што з кастрычніка 1939 па чэрвень 1941 года ваўкавыская газета выходзіла на беларускай мове.

Рэдакцыя адрэагавала на нататку проста: маўляў, няхай чытач сам вызначыць мову выдання. І ні слова пра Закон аб мовах, абласной праграме, раённых мерапрыемствах. Якім будзе адказ зрусіфікаванай большасці грамадзян — зразумела.

Для даведкі: у Ваўкавыскім раёне на дзень перапісу з агульнай колькасці насельніцтва беларусамі назвалі сябе 55,2 %, палякамі — 34,2 %, рускімі — 7,9 %.

Што да «Ашмянскага весніка», то сёння нямала матэрыялаў газета друкуе на беларускай мове. Дасягненнем рэдакцыі можна лічыць і рэгулярную старонку «Роднае слова». Выпускі рыхтуюць члены праўлення раённага Таварыства беларускай мовы. «Няхай яна часцей гучыць!» — заклікае ў сваім допісе рэдактар Ю. І. Нікалаеў.

Узнікае пытанне: чаму ў даваенны час у Заходняй Беларусі знаходзілася месца беларуска-польска-яўрэйскім школам? А пасля вайны гэтыя навучальныя ўстановы саступілі месца школе рускамоўнай? Чым гэта можна растлумачыць? Начальства чакае вяртання рэспублікі ў СССР?

Пасля далучэння ў 1939 годзе Заходняй Беларусі да БССР раёны запоўнілі шматлікія спецыялісты з Усходу. Партыйныя, гаспадарчыя кіраўнікі былі з Савецкай Беларусі. Работнікі міліцыі, НКУС камандзіраваліся з Расіі. Гэта яскрава праглядаецца, напрыклад, па архіўных дакументах Ваўкавыскага раёна. Ці да мовы было, калі на парадку дня стаялі пытанні ўтварэння партарганізацый, выканання планаў лесанарыхтовак ды выкрыццё ворагаў народа...

З 1943 года ў Заходняй Беларусі распачалася шырокая партызанская барацьба. Шматлікія дыверсійныя групы з Вялікай Зямлі дзесяткамі засылаліся сюды. Пасля вайны большасць былых партызанскіх камандзіраў і камісараў апынулася на кіруючай партыйнай і гаспадарчай рабоце. Ім таксама беларуская мова была чужой. Трэба яшчэ ўлічваць, што карэннага насельніцтва ў вайну значна паменшала, а пасля вайны Заходнюю Беларусь захліснула новая хваля «спецыялістаў» з Усходу, якія не разумелі мясцовага ўкладу жыцця, традыцый і скарыстоўвалі сталінскія метады кіравання. А карэннае насельніцтва ўсё меншала. У 60-я гады русіфікатарства дасягнула апагею.

Але і гэта не ўсё. Значную ролю адыгралі палітычныя інтарэсы Расіі і Польшчы. Сотні гадоў змагаліся яны за свой уплыў на гэтых землях. Дастаткова сказаць, што ў Заходняй Беларусі з 1795 года сем разоў мянялася дзяржаўнасць.

Дзіўна іншае: як насельніцтву ўдалося ўсё ж захаваць уласныя мову, культуру, народнае мастацтва? Больш таго, у першародным выглядзе. Да вайны тут карысталіся граматыкай Тарашкевіча, адсюль людзі ехалі на заробкі і везлі з сабой матчына слова. Беларусы на Беласточчыне, у Амерыцы, Канадзе, Аўстраліі размаўляюць па-ранейшаму, іх правапіс не сапсаваны рознымі «рэформамі» савецкага перыяду.

Але факт застаецца фактам — за апошнія пяцьдзесят гадоў руская мова глыбока ўкаранілася ў свядомасць тутэйшага жыхарства. Раённыя газеты зараз перажываюць не лепшыя часіны. Стаіць пытанне, ці быць ім наогул. Дарагоўля паперы, друкарскія выдаткі ставяць іх у незайздроснае становішча. Можа стацца, што рускамоўныя газеты застануцца, а беларускамоўныя знікнуць. Так званы рынак дыктуе свае ўмовы, жорсткія і бязлітасныя. Таму вельмі пажадана, каб самі газетчыкі адчувалі сябе грамадзянамі Рэспублікі Беларусь, памяталі, што пакуль жыве родная мова — жыве і яе носьбіт.

Валерый СЦЕПАНЮК.

*Чыталі?*

# Дзяржава ці прывід?

Апошнім часам актыўна абмяркоўваецца ў друку выкладанне гісторыі ў навучальных установах. Ажыўленая гаворка аб гэтым вядзецца ў «Настаўніцкай газеце». Нядаўна тут быў змешчаны артыкул дацэнта кафедры палітычнай гісторыі Беларусі Політэхнічнай акадэміі Т. Лойкі. Закрануўшы праблему вывучэння грамадазнаўчых навук, артыкул у той жа час асвятляе станаўленне беларускай дзяржаўнасці. Аўтар пераканаўча абвяргае вывад аб тым, быццам Беларусь ніколі не мела незалежнасці і дзяржаўнасці.

Так, першая беларуская дзяржава — Полацкае княства — упамінаецца ў летапісе ўжо ў 862 годзе. Пасля распаду Кіеўскай Русі Беларусь на працягу некалькіх стагоддзяў захоўвала сваю дзяржаўнасць. Аднак яе гісторыя ў перыяд, калі яна ўваходзіла ў склад Вялікага княства Літоўскага, а затым Рэчы Паспалітай, засталася белай плямай. Як расійскія, так і польскія гісторыкі часцей за ўсё адмаўлялі палітычнае жыццё беларусаў у гэты час. Аўтар, аднак, адзначае: з дванаццаці стагоддзяў гісторыі Беларусі толькі на працягу дванаццаці дзесяцігоддзяў яна не мела ні дзяржаўнасці, ні самакіравання, калі знаходзілася пад скіпетрам Расійскай кароны. І таму зусім не зразумела, чаму беларускія гісторыкі рабалепна падганяюць гісторыю свайго народа пад амбіцыі палітыкаў суседніх краін.

А. С.

# «Дзеці Чарнобыля»— сёння і заўтра

Арганізаваны ў 1990 годзе камітэт «Дзеці Чарнобыля» аб'ядноўвае людзей, якія працуюць дзеля выратавання генафонду беларускай нацыі. Яго дзейнасць вызначаюць напрамкі навукова-практычны, інфармацыйны і дабрачынны. Задача заключаецца ў тым, каб каардынаваць намаганні навуковых і лячэбных устаноў па ўкараненні новых методык дыягностыкі і лячэння захворванняў, звязаных з радыяцыяй, распрацоўцы пытанняў дыетычнага харчавання, аказанні лячэбнай і прафілактычнай дапамогі насельніцтву забруджанай зоны, па распаўсюджванні сабранай медыкамі-практыкамі, неабходнай інфармацыі аб згубным уплыве на людзей радыяцыі, па арганізацыі рэабілітацыйных цэнтраў і, нарэшце, па ажыццяўленні дабрачынных акцый. Узначаліла гэту працу Тамара Васільеўна Белавокая, якая мае непасрэднае дачыненне да чарнобыльскай бяды, бо працуе ў клініцы Беларускага навукова-даследчага інстытута радыяцыйнай медыцыны загадчыцай аддзялення дыягностыкі.

У кастрычніку 1990 года камітэт правёў першую ўсесаюзную канферэнцыю па праблеме: «Харчаванне дзяцей ва ўмовах забруджання асяроддзя радыенуклідамі».

У снежні 1991 года камітэт правёў міжнародную канферэнцыю пад дэвізам: «Няўрадавыя арганізацыі — за бяспеку і будучыню дзяцей».

Трэцяя навукова-практычная канферэнцыя па праблеме «Чарнобыльская катастрофа і медыка-псіхалагічная рэабілітацыя тых, хто пацярпеў» адбудзецца 14—15 красавіка.

Некалькі слоў пра дабрачынную дзейнасць камітэта. У мінулым годзе на дабрачынную дапамогу было выдаткавана каля 100 тысяч рублёў. Многа гэта ці мала? Калі ўлічыць, што ахвяраванні ад прыватных асоб і дзяржаўных устаноў склалі 50 тысяч рублёў,— то многа. А адкуль узяліся яшчэ 40 тысяч рублёў, ды яшчэ некалькі тысяч, што былі выдаткаваны на вучобу беларускіх медыкаў за мяжой і на набыццё абсталявання для клінік рэспублікі?

Каб мець грошы, камітэт, улічваючы беднасць нашай дзяржавы, павінен займацца камерцыйнай дзейнасцю: ён засноўвае і падтрымлівае развіццё камерцыйных прадпрыемстваў, якія затым становяцца яго галоўнымі «ахвяравальнікамі».

Найбольш актыўна і шчодра дапамагаюць камітэту навукова-вытворчы камерцыйны цэнтр «Сопричастность-90» і малое прадпрыемства «Информ-менеджмент». Акрамя грашовай дапамогі, «Сопричастность-90» вывез на аздараўленне ў Балгарыю 150 дзяцей з настаўнікамі на паўгода.

У лютым гэтага года на справаздачнай канферэнцыі камітэта вызначылася яшчэ адно поле яго дзейнасці — стварэнне рэабілітацыйных цэнтраў. Плануецца будаўніцтва дзіцячага санаторыя ў Віцебскай вобласці і рэабілітацыйнай клінікі ў Менскім раёне. Гэтыя праграмы патрабуюць вялікіх капіталаўкладанняў, таму камітэт «Дзеці Чарнобыля» будзе супрацоўнічаць з усімі, для каго неабыякавы лёс беларускай нацыі. Наш адрас: 220600, г. Менск, вул. Прытыцкага 60/2, тэл. 51-43-11, факс (0172) 52-15-89. Наш разліковы рахунак у Беларускім прамысловым банку г. Менска № 700711 і № 700610 — у Знешэканомбанку Рэспублікі Беларусь.

З павагай да спадарства ад камітэта «Дзеці Чарнобыля».

А. АФАНАСЬЕЎ.

# КЛОПАТ КРАЯЗНАЎЦЫ

**Менчука Віктара Скарахода з докшыцкай зямлёй шмат што звязвае. Тут ён нарадзіўся і вырас. Тут партызаніў у брыгадзе «Жалязняк». Пасля Вялікай Айчыннай настаўнічаў...**

**Перабраўшыся ў сталіцу, не згубіў Віктар Іванавіч сувязей з роднай старонкай. Часта наведваецца ў райцэнтр, вандруе па докшыцкіх і бягомльскіх вёсках. Многія краязнаўчыя артыкулы настаўніка-пенсіянера друкуюцца ў мясцовай раённай газеце «Родныя вытокі».**

**Аднойчы рэдакцыя газеты атрымала з Менска даволі ёмісты пакет з тэкстамі народных песень ад Віктара Іванавіча. У пісьме ён растлумачыў: у часы яго маленства над іх палеткамі ў сенакос і жніво звінелі песні. Асабліва іх шмат спявалі ў Мацееўцах, адкуль родам яго маці. І вось ён надумаўся запісаць ад яе тыя песні, што захавала памяць... З таго часу ў «Родных вытоках» штомесяц друкуюцца фальклорныя запісы руплівага краязнаўцы.**

**Гуляла б, спявала б я,**  
**Ды баюся мужа,**  
**Ён маніўся мяне пабіць,**  
**Ды балюча дужа.**  
**Ён пугу на саломінку насіліць,**  
**Ён жа мне, маладой, косці паломіць,**  
**Ён жа мне, маладой, здароўе адойміць.**

**Больш за сотню песень запісаў Віктар Скараход. Магчыма, яго публікацыі ў «раёнцы» заўважаць докшыцкія калектывы мастацкай самадзейнасці? Працуе ж пры раённым Доме культуры, напрыклад, ансамбль народнай песні «Раніца». Выступае ён не толькі ў Докшыцах, але і ў Віцебску, Менску, іншых куточках Беларусі. І яшчэ выкажу шкадаванне, што моладзь і людзі сярэдняга ўзросту на докшыцкай і бягомльскай зямлі не спяваюць мясцовых народных песень, як было некалі.**

**Іван ЛАЗУКА,**  
**рэдактар докшыцкай раённай газеты «Родныя вытокі».**

# Вучымся!

*Слоўнікі*

## З фразеалагічнага нерушу

Напрыканцы мінулага года ў выдавецтве «Вышэйшая школа» пабачыла свет кніга І. Лепешава «З народнай фразеалогіі». Характар новага слоўніка трапна вызначаны ў прадмове самім аўтарам: «Усе выразы... належаць да фразеалагічнай нерушы: яны не апісваліся ні ў нарматыўных слоўніках беларускай літаратурнай мовы, ні ў даведніках беларускай народна-дыялектнай фразеалогіі (працах Ф. М. Янкоўскага, Г. Ф. Юрчанкі, Е. С. Мяцельскай і Я. М. Камароўскага), ні ў асобных публікацыях з фразеалагізмамі, зафіксаванымі ў тым ці іншым раёне нашай рэспублікі. Складаючы гэты слоўнік, я, такім чынам, кіраваўся патрабаваннямі, якія прад'яўляюцца да дыферынцыяльнага фразеалагічнага слоўніка». І далей: «Думаецца, што многія з уключаных у слоўнік выразаў, яркіх і вобразных, адабральных і асуджальных, жартаўлівых і іранічных, можна лічыць рэзервам нашай літаратурнай мовы, крыніцай яе ўзбагачэння».

Услед за аўтарам слоўніка цікаўны чытач зробіць захапляючае падарожжа па мясцінах бытавання многіх трапных выразаў. На Зэльвеншчыне вам паабяцаюць «атравіць душу» (што азначае, як сведчыць І. Лепешаў,— страшэнна расхвальваць, давесці да адчаю). А ў Берштах Шчучынскага раёна вам могуць і «бараду павесіць» (азначае: адмовіць таму, хто заляцаецца да каго-небудзь). У Іскозах на Дубровеншчыне «язык у цемя ўцягнуць». Праўда, часам без аўтарскага тлумачэння цяжка здагадацца, што значыць тое ці іншае выслоўе.

Слоўнік І. Лепешава карысны найперш тым, што нясе да нас фразеалагічныя загадкі і з'яўляецца добрым штуршком да моўна-пошукавай працы, прымушае зацікавіцца паходжаннем тых ці іншых фразем.

Сабраныя ў кнізе «З народнай фразеалогіі» выслоўі, на жаль, рэдка ці амаль зусім не ўжываюцца ў мастацкай літаратуры.

**Ганна ЦІТАЎКА.**

## РАЗМОЎНІК ВЕТЛІВАГА ГОСЦЯ

*Гасцяванне ў Літве*

Я хачу есці (піць).
Aš noriu valgyti (gerti).
Аш нӧрю вáльгіті (гя́рті).

Вы ўжо снедалі?
Ar jus jau pusryčiavote?
Ар юс яў пусрічя́вотя?

Я хацеў бы (хацела б) паснедаць.
(Aš) norečiau papusryčiauti.
(Аш) норе̄чяў папусрічя́ўті.

Калі пойдзем абедаць?
Kada eisime pietauti?
Кадá эйсімя піетáўті?

Дзе будзем абедаць?
Kur pietausime?
Кур піетáўсімя?

Куды мы пойдзем паснедаць (паабедаць, павячэраць)?
Kur mes eisime papusryčiauti (papietauti, pavakarieniauti)?
Кур мяс эйсімя папусрічя́ўті (папіетáўті, павакаріеня́ўті)?

Хадзем у кафэ «Нярінга».
Eikime į «Neringos» kavinę.
Эйкімя і нярінгос кавíня.

### АСАБЛІВАСЦІ ЛІТОЎСКАЙ МОВЫ. ВЫМАЎЛЕННЕ.

1. Умоўным знакам — рыскай над літарай — пазначаюцца тыя галосныя літоўскай мовы, якія вымаўляюцца болей працягла, чым адпаведныя гукі беларускай мовы, а менавіта: a, ą, e, ė, ę, į, y, ų, o. Напр.: stalą (ста̄ла̄), žeme (жя́ме̄), yra (і̄ра), ỹra (і̄ра), sūnus (сӯнýс), oras (о̄рас).

2. Умоўным знакам ◡ пазначаюцца ў тэксце спалучэнні галосных, якія вымаўляюцца як злітны гук, напрыклад: аудрá, пíенас, дýона. У першым прыкладзе вымаўленне двухгалоснага «ау» адпаведна вымаўленню гэтага гука ў беларускай мове. У другім прыкладзе спалучэнне галосных «ie» вымаўляецца, як беларускае «е» ў слове «пена». Ў трэцім прыкладзе «уо» вымаўляецца больш злітна, чым спалучэнне гэтых гукаў у беларускай мове.

3. Спалучэнне гукаў літоўскай мовы «ei» (у транскрыпцыі «ей») трэба вымаўляць як «яй».

4. Гук «h» пазначаецца як «х», аднак яго трэба вымаўляць як «г» у беларускай мове (гара, горад).

5. Зычныя гукі «t», «d» перад пярэднімі галоснымі (е, ē, [я], [я̄], і, і̄) вызначаюцца больш цвёрдым вымаўленнем, чым беларускія «т», «д» перад тымі ж галоснымі.

6. Націск у літоўскай мове, як і ў беларускай, рухомы.

## Кароткі слоўнік эканомікі

**БАНІЦІРОЎКА ЗЯМЛІ І ЗЯМЕЛЬНЫ КАДАСТР.** (Кадастр — з французскай і азначала ўпарадкаванне). Сістэматызаваны звод звестак аб зямлі як галоўным сродку вытворчасці ў сельскай і лясной гаспадарках. У часе баніціроўкі і састаўлення кадастра даецца апісанне агульнай плошчы, месца знаходжання ўчасткаў, іхняя канфігурацыя, якасць глебы, магчымая прыбытковасць. Асновай для правядзення ацэнкі служаць карта глебы, звесткі аб ураджайнасці, затраты на апрацоўку і інш. Зямельны кадастр у нашай краіне ўключае пяць асноўных частак: 1) афармленне юрыдычнага права на зямлю; 2) колькасны ўлік зямлі; 3) улік якасці земель; 4) уласна баніціроўку зямлі; 5) эканамічную ацэнку зямлі. Без усяго гэтага правядзенне справядлівай прыватызацыі зямлі немагчыма.

*У пісьменніцкай майстэрні*

*Алесь КАЎРУС*

## А здаецца, не выстарчыць слоў

***Уладзімір Дубоўка — шчыры і самабытны пясняр Беларусі, выдатны прадстаўнік купалаўскай школы паэзіі — пільна ўзіраўся ў з'явы рэчаіснасці, раздумваў над лёсам народа, разважаў пра сэнс чалавечага жыцця.***



А ПАЧАТКУ творчай працы перад Дубоўкам паўстала пытанне: якая роля духоўнай спадчыны, у прыватнасці фальклору, у будаўніцтве новай культуры? Ён прыйшоў да высновы, што народная творчасць не страціла пазнавальнай, філасофскай, эстэтычнай вартасці. У ёй паэт чэрпаў тэмы, вобразы, думкі, распрацоўваў на яе аснове ўласную паэтыку, узбагачаў і шліфаваў сваю мову. Не дзіва, што Дубоўкава слова напоўнена глыбокім зместам, па-мастацку дакладнае і выразнае. Найперш звяртае ўвагу багацце лексікі і фразеалогіі Дубоўкавых твораў, што абумоўлена глыбінёй сягання пісьменніка ў беларускую мову, яго моўным, эстэтычным густам.

Паасобныя словы і фразеалагізмы перадаюць каларыт любых паэту гаворак Пастаўшчыны і Мядзельшчыны: *адляйцаць, ажыргаць, астрыжонак, брыж, буталь, валосы, водзыўкі, зблоціць, калюжа, лактáць, нажутка, ляхá, нурцаваць, пагурачак, пастыр, пашыбень, разыгрынка, раўгеня, даць алалаху, трапіць у клямар, цікáцца.*

Уплыў дыялектнай мовы адбіўся на формах дзеяслова Дубоўкавых твораў. Трапляюцца асабовыя канчаткі, характэрныя для паўночна-ўсходняга дыялекту і часткі сярэднебеларускіх гаворак: (дзядуля) *паберыць* усіх, *заберыць* (яны), *пасыпяць*, (сэрца) *трапечыць*, у вочы *колець*. Такіх ужыванняў болей было ў творах, апублікаваных у 20-я гады. У наступных выданнях аўтар выправіў іх паводле сучаснай нормы.

Асабовыя формы дзеясловаў *ліць, заліць, ліцца, віць, віцца* захоўваюць у корані галосны *і: ліюць, ліецца, залію, віецца, віюцца*. Паэт лічыў такія формы болей мілагучнымі, чым *льюць, льецца, уюцца*.

Дубоўка прыняў у свой паэтычны слоўнік формы *жані, аджані, жане, выжане* (дзеясловы *гнаць, адагнаць, выгнаць*), уласцівыя паўднёва-заходняму дыялекту: *...ад твараў струджаных тугу і смутак я аджану і на палёх рассыплю; Жані тугу на шчырыя бары* («І пурпуровых ветразей узвівы»). Мажліва, гэтыя формы таксама прываблівалі паэта сваім гучаннем. З гаворак паўднёвага захаду Беларусі архаічная форма будучага часу: *Вітацьму неба, воды ўсе* («Штурмуйце будучыні аванпосты!»); *Гэта ж народная сіла ўставала; вечна яна існавацьме на свеце* («Крычаўская спакуса»); *На цябе смяюцца людзі. Што рабіцьмеш, вось пытанне!* («І пурпуровых ветразей узвівы»). У мове мастацкай літаратуры нашых дзён назіраецца пашырэнне такіх формаў.

Яскравая граматычная рыса, вытокі якой у мясцовых гаворках,— рэгулярнае ўжыванне дзеепрыслоўяў з суфіксам *-ўшы*, якія значэннем супадаюць з дзеепрыслоўямі на *-учы(-ючы), -ачы(-ячы): Далёка пойдзе песня, не знаўшы берагоў* («Ідзе май»); *Меншы сын, не чуўшы быццам, адчыніў раптоўна дзверы* («Хто шукае — той знаходзіць»).

Пры наяўнасці лексічных варыянтаў, сінонімаў Дубоўка аддае перавагу словам *бойны* (пра дарогу)., *вядомка* (вестка), *вялізманы, двору* (дамоў, дома), *здэтанаваць* (збянтэжыць), *зімны* (халодны), *ільсніцца, квет, летуцець, лятунак, матка* (маці), *наземіць* (апускаць на зямлю), *наземіцца, наступны* (будучы), *няўгойны* (незагойны), *няўшчунны, нечаканка, паліва, памога* (дапамога), *прымружаны, рата, спогад, струджаны, супакой, цягнік* і інш.

Некаторыя з улюбёных паэтам слоў перад усім выконваюць мастацка-паэтычную функцыю. Так, слова *пялёсткі* ў Дубоўкавых творах набыло значэнне сімвала, абазначае хуткаплыннасць, мінучасць людскога жыцця: *Адцвітае, усё адцвітае — і гады, і хвіліны, і кветкі. Маладосць ты мая залатая, і цябе панясе так па ветру. Разліешся пялёсткамі песень ад мяне ты на тыя даліны* («Палыны пасівелі на ўзгорку»). Невыпадкова і зборнік апавяданняў-успамінаў паэт назваў «Пялёсткі» (1973).

Няцяжка заўважыць прыхільнасць паэта да слоў, якія абазначаюць колеры: *кармазынавы, пазлацісты, пурпуровы, ружовы*. З іх дапамогай дасягаецца і вобразнасць мастацкай мовы і яе меладычнасць, напеўнасць: *Пурпуровасць каліны, пунсовасць, кармазынавасць дзікіх шыпшын* («Неба сіняе, сіняе вельмі»).

Дубоўка актыўна выкарыстоўвае клічную форму назоўнікаў: *Адаме, Баяне, браце Сцяпане, ветру, дружа, земляча, квеце, княжа, пане браце, суседзе, сыне. Свеце мілы мой! Хто ж бы тут толькі стрываў!* («Перад імем любові»); *Іграй, іграй, мой дружа цымбалісты, каб дні вясны маёй са струн зляталі* («Паляжам мы»).

Паслядоўна ўжываюцца зборныя назоўнікі *праменне, каменне, крылле, жалеззе*, зафіксаваны формы *груддзе, колле, квецце, струменне.*

Пры відавочнай перавазе нарматыўных канчаткаў назоўнікаў сустракаюцца склонавыя формы, якія ідуць з дыялектнай мовы або адлюстроўваюць нормы, што існавалі да рэформы правапісу 1933 года: *пасля дожджу, за бокі ўзяўся, на палёх жаўтагрудых, у верасох, у вочах, у горах, балаты* (разляглiся), *кляны* (стаяць), *туманы* (разліліся).

У Дубоўкавых творах, напісаных у розны час, паралельна ўжываюцца варыянтныя канчаткі роднага склону адзіночнага ліку прыметнікаў (а таксама парадкавых лічэбнікаў, займеннікаў) жаночага роду *-ай(-яй), -ае(-яе): Павевы невыказнае асенняй пекнаты прынеслі радасць з неспакоем* («І пурпуровых ветразей узвівы»).

Аўтарскі стыль Дубоўкі адметны шырокім выкарыстаннем прыналежных прыметнікаў: *аўтарава* (прадмова), *дзяўчыніны* (слядочкі), *жанчыніна* (цела), *Коласавы* (словы), *месяцавае* (праменне), *Мілавіціны* (патомкі), *паэтава* (сэрца), *светава* (столь), *сонейкаў* (палац), *сонцавы* (дзеткі), *хлапцова* (сэрца).

Што да кароткіх якасных прыметнікаў, то яны адзінкавыя. Гэта адпавядае тэндэнцыі літаратурнай мовы да выцяснення кароткіх формаў: *Ад сонца яснага яна ўся чорна і лёсу горкаму пакорна* («Чые рукі прыгажэйшыя?»); *Сустракаюць маладу вясну* («Снег знікае»); *Не ўблагае ніцы лозы аніводзін вецер* («Выхадзіла дзеўчына»).

Дубоўка паўней, чым гэта дазваляюць граматыкі, выкарыстоўвае сродкі выражэння ступені якасці. Апрача формаў тыпу *разумнейшы за(ад) іх; разумейшы, чым яны; найразумнейшы; самы разумны,* ужываюцца спалучэнні слоў (назоўнікі, займеннікі) з прыназоўнікам *над: Ты над яго дужэй сама* («Хто дужэйшы»); *Куды ні паглянь — над красою краса* («Памалу, паціху зайшоў я...»); *Хоць ганарыстымі яны былі тады ўсе паны, але вось гэты — над усіх* («Вяльможны Пых»). Заўважым: у формах вышэйшай і найвышэйшай ступеняў націск — на галосным суфікса *-ейш-: Далёкія і блізкія сябры Чакаюць прыдатнейшае пары* (пераклад паэмы Дж. Г. Байрана «Бронзавы век»); *...моц магутнай тайгі і яшчэ магутнейшай зямлі... плыве* («Памалу, паціху зайшоў я...»).

Павучальны Дубоўкаў вопыт ужывання дзеепрыметнікаў. Ён абыходзіцца без неўласцівых беларускай мове дзеяслоўных формаў з суфіксамі *-уч-(-юч-), -ач-(-яч-)*. А са значэннем рускіх дзеепрыметнікаў з суфіксамі *-ем-, -ім-*, ужывае, як і Янка Купала, формы з суфіксам *-ан-(-ян-): Вырас так і наш музыка, калыханы роднай маткай* («І пурпуровых ветразей узвівы»); *...вецер звее ў ніцы лозы тугу, што йдзе за небакрай, і неспыняныя ўсе слёзы* («Тугой спавіты небакрай...»); *Кожнай драбнічкай ты варта пашаны, кожнае слова вякамі ствара на* («Родная мова, цудоўная мова!»).

Варта адзначыць, што шмат якія словы Дубоўкавых твораў увайшлі ў літаратурны ўжытак: *аберуч, агораць, апантаны, ашчаперыць, веславаць, водар, волкі, вохкі, дойлід, збочыць, збунтаваць* (змяшаць, пераблытаць), *знічка, імклівасць, наканаваны, нелюдзь, непрыдатны, неставаць, праставаць, столка, строма, талака, удубальт, шэрань* ды іншыя. А да некаторых з гэтых слоў у 20-я гады выдавецтва прапанавала Дубоўку даць тлумачэнне (зб. «Трысцё», 1925).

Зварот пісьменніка да «старых» слоў вымагаўся патрэбай адлюстраваць тагачасныя і даўнейшыя рэаліі, імкненнем максімальна скарыстаць моўныя скарбы, асабліва тую іх частку, якая забяспечвае духоўную пераемнасць пакаленняў, вызначае самабытнасць беларускай мовы. Такая пазіцыя паэта была сугучная агульнаму працэсу інтэнсіўнага ўзбагачэння літаратурнай мовы, выпрацоўкі яе стыляў. Аднак у 30-я гады з вядомых прычын затармазілася натуральнае развіццё літаратурнай мовы, перавага стала аддавацца запазычанням, калькам. Цяпер, у сувязі з павышэннем цікавасці беларусаў да сваёй гісторыі, абуджэннем нацыянальнай свядомасці, узрастае функцыянальная актыўнасць некаторых вышэйпададзеных слоў.



# Прыгажосць выратуе свет

Своеасаблівае выкананне і незвычайнасць матэрыялу, багатае ўяўленне і мастацкі густ вызначаюць творчасць мастака брэсцкага камбіната «Мастацтва» Мікалая Кузьміча. Заснежаныя палі, ледзяныя каралі, а то і зусім фантастычныя сюжэты, што нараджаюцца з металу, эмалі і аптычнага шкла, літаральна захапляюць гледача.

Працы брэсцкага майстра экспаніраваліся і за мяжой — у ЗША, Іспаніі, Францыі. І паўсюдна былі адзначаны ўзнагародамі, увайшлі ў каталогі выстаў.

НА ЗДЫМКУ: Мікалай Пятровіч Кузьміч з сынам Пятром у сваёй майстэрні.

Фота Эдуарда КАБЯКА. (БелТА).

*Алег БЕМБЕЛЬ*

# З «падпольнай» кнігі

*(Працяг. Пачатак у №№ 5—11).*

Я не буду далей апісваць свае прыгоды, звязаныя са збіраннем матэрыялаў для гэтай кнігі. Калі-нікалі мо і падкрэслю нешта характэрнае ці проста цікавае на мой погляд. Бывала, мае субяседнікі адхіляліся крыху (а мо і болей) непасрэдна ад тэмы. Калі-нікалі іхні маналог пераходзіў у дыялог (са мной ці з тымі, хто далучаўся да нашай гутаркі). Сёе-тое з гэтага, цікавае, на мой погляд, для раскрыцця ці «падсветкі» галоўнага, я прывяду. Дарэчы, і асноўнае наша пытанне настолькі шырокае і глыбокае, настолькі неадрыўнае ад самых глыбінных плыняў чалавечай душы, што фактычна яно змяшчае ў сабе шмат якія моманты светаадчування чалавека, якія прама, вонкава мо і не звязаны з праблемай мовы, але якія мэтазгодна мець на ўвазе — для больш глыбокага разумення адказаў на асноўнае пытанне — тых, што былі, ці невымаўленых...

Дык вось, запрашаем Вас, паважаны чытач, за «круглы стол» чалавечай думкі, таго, што я, мо і крыху вольна, заву сучасным філасофскім фальклорам...

Я наўмысна не даю прозвішчаў, навуковых ці ганаровых званняў. Я хачу, каб гэта была не нарада канкрэтных асоб і чыноў, а сапраўдная сябрына жывой чалавечай думкі. Я адзначаю толькі ўзрост, нацыянальнасць і прафесію чалавека...

## *2. Што мы думаем пра цябе — беларуская мова?..*

**(40 гадоў, беларус, філолаг з Віцебшчыны)**

Ёсць такая легенда:

...Раніцай беларуса павесілі...

Увечары прыйшлі здымаць...

Знялі...

Ён толькі крэкнуў, памацаў шыю, крыху пакруціў галавой... і пайшоў...

Ка́ты вылупілі вочы, разявілі раты... Столькі вешалі!— а такога не бачылі...

Потым адзін схамянуўся, крычыць: — Пачакай!.. Скажы ж, калі ласка, як гэта ты?.. Адвеку ж не было такога!..

Той прыпыніўся і кажа:— Перш балела... А потым — прыцярпеўся...

І пайшоў прэч...

У гэтым сімвале — сітуацыя... нацыянальны характар... лёс культуры і мовы... лёс народа...

**(Каля 50 гадоў, беларус, гісторык з Гродзеншчыны)**

Гсіторыя паставіла беларускі нацыянальны арганізм ва ўмовы бязлітаснага выпрабавання на жыццяздольнасць. Праграма адраджэння, сфармуляваная ў першай чвэрці XX стагоддзя, не была выканана. Вульгарная сацыялогія знішчыла большую частку беларускіх інтэлігентаў, рэштку — духоўна і творча знявечыла. Затым — нацысцкае нашэсце...

З другой паловы пяцідзесятых гадоў, недзе ў самых глыбінных плынях культуры адчуваецца працяг перапыненага ў трыццатыя гады руху...

У цяперашні час лёс не толькі беларускай, але і ўсіх іншых нацыянальных культур і моў вырашаецца тут, на Беларусі.

«Мова — кроў народа» (Ядвігін Ш.). Гэта ісціна. Абескроўлены народ — як носьбіт пэўнай духоўнай індывідуальнасці — знікае. А разам з гэтым страчваюць нешта істотнае і ўсе іншыя, бо арганізм чалавецтва складаюць народы, іхнія культуры і мовы, злучаныя ў гармонію, сэнс існавання якой (як і прыроднай гармоніі) мы пакуль што не ўсведамляем.

Раней беларускую культуру касілі, але яна, быццам трава, зноў і зноў вырастала, ажывала. Цяпер знішчаюцца карані культуры — вёска... У прафесійнай жа нашай інтэлігенцыі, калі яе ўмоўна разглядаць як нешта цэлае,— нацыянальная лейкемія. Па сваіх адносінах да беларускай мовы наша інтэлігенцыя выразна дзеліцца на пяць груп:

1. «Балота»... Бяздумныя спажыўцы сучаснай масавай культуры. Яны абыякавыя не толькі да мовы, але і да ўсяго іншага, апрача спажывецтва... Іх болей за ўсіх астатніх...

2. Чарнасоценцы. Яны шчыра «за беларускую культуру» — але, па магчымасці, без беларускай мовы і духу.

3. Вульгарныя прагматыкі. Яны ўсё разумеюць, але робяць так, як ім выгадна. Сёння для кар'еры выгадна размаўляць і пісаць па-руску — яны так і робяць. Заўтра вецер зменіцца — яны пераарыентуюцца ўмомант. Іх крыху меней, чым чарнасоценцаў, але таксама багата.

4. Культурнікі. Іх няшмат. Яны добрасумленна распрацоўваюць на беларускай мове чыста культуралагічную праблематыку. Гавораць на мове. Палітыку, па магчымасці, абыходзяць.

5. Беларускія інтэлігенты — поўныя, як мае быць. Бескампрамісныя змагары за сапраўднае адраджэнне беларускай дзяржавы, культуры, мовы. На іх начэплены ярлыкі «нацыяналістаў». Тут іх адзінкі. У эміграцыі, можа, крыху болей.

...Ці здолеюць беларусы спыніць знішчэнне вёскі — каранёў сваёй культуры і мовы?.. Пераадолець нацыянальную кволасць сваёй прафесійнай інтэлігенцыі?

Якія «намеры» тут пані гісторыі?.. Чаго яна «хоча» ў рэшце рэшт?..

Усе гэтыя пытанні — адкрытыя...

**(Паміж 20 і 30, беларуска, літаратар)**

Я могу говорить по-белорусски. Но барьера какого-то сломать не могу... неуверенность... Боюсь сказать не так... отсюда смущение...

...Белоруссия колония России. Во всём, в том числе и в отношении языка и культуры. Проводится русификаторская политика — и москалями и собственными коллаборационистами. Люди воспитываются на языке господствующего класса политической бюрократии. Господствует чувство неполноценности собственного языка...

...До русского господства было два века польского. Так что интеллигенции белорусской — в смысле устойчивых, из поколения в поколение передающихся традиций культуры — фактически нет. Белорусов-интеллигентов выбили в восстаниях 1831, 1863, 1917-го... и, наконец, в 1930-е...

Через какой-то срок интеллигенция сломает барьер. И у народа отношение к языку изменится. Может быть, и через полвека — но это будет...

Люди, работающие в литературе, поворачивают этот процесс...

...Вредно ставить вопрос так, что культура связана только с деревней, землёй. Деревня всегда была ориентирована на фольклор, на удержание языка — неосознанное...

Сознательная культура держится на интеллигенции и связана с памятью об истории...

*(Працяг будзе).*

# Сказаў як звязаў

***Шаноўны спадар Зміцер Санько!***

***Твой «Малы руска-беларускі слоўнік прыказак, прымавак, фразем» — першая ластаўка з цэлага выраю кніг такога накірунку. Філолагі і фалькларысты яшчэ скажуць сваё важкае слова пра яго вартасці. І, вядома, пра недахопы. Бо яны ў любой сапраўднай, цяжкай працы бываюць. Я ж тут хачу сказаць толькі адно: дзякуй! Слоўнік хоць малы, але ўдалы.***

***Заклікаю ўсіх, хто мае што за душою, сыпнуць і сваю жменьку ў Зміцераў кош. А ён хай адсявае-вее, сістэматызуе іх. Хай выпраўляецца ў вялікую дарогу.***

***Павел МІСЬКО.***

ПРЫКАЗКІ І ПРЫМАЎКІ

**Без труда не вытащишь и рыбку из пруда** — Хочаш рыбы налавіць і штаноў не намачыць?

**Береги платье снову, а честь смолоду** — Шануй адзенне дома, то яно цябе пашануе ў людзях.

**Бережёного и Бог бережёт** — Хто сабе не спрыяе, хай таго рука ўные.

**Была бы шея, а ярмо найдётся** — Была б шыя, а хамут знойдзецца.=Была б галава, а вошы будуць.

**Был бы хлеб, а зубы сыщутся** — Быў бы хлеб, то я й на прыпечку (на лаўцы) пад'ем.

**Был конь, да изъездился** — Быў каптан, ды знасіўся.

**Было дело, да не было деда** — Бывалаківала, а цяпер і не варушыцца.

**Взялся за гуж — не говори, что не дюж** — Калі церці, дык да смерці.

**Видна птица по полёту** — Відаць сокал па памёту, не толькі па палёту.=У нашага зуха чырвонае вуха.

**Визга многа, а шерсти нет** — Пастрыглі ката: віску многа, а воўны мала.

**В каждой шутке есть доля правды** — Жарт жартам, але ж і праўды макавінка ёсць.

**В ногах правды нет** — Колькі пастаяць, столькі й пасядзець.= За пастой грошы плоцяць.= Садзіцеся, каб пчолы садзіліся.

**В огороде бузина, а в Киеве дядька** — Я яму пра быка, а ён мне пра індыка.

**Вор ворует не для прибыли, а для своей гибели** — Крадзенае праз бок вылезе. =З крадзенага не пасыцееш.

**Всё хорошо, что в меру** — Лішняе і свінні не ядуць.

**Всяк кулик своё болото хвалит** — Пад якім кустом воўк нарадзіўся той яму і мілы.

**Всяк молодец на свой образец** — Кожны струп свой сверб мае.= Добры музыкант і на качалках сыграе.

**Всяк по-своему с ума сходит** — Што ні кура, свая натура.

**Всяк сверчок знай свой шесток** — Сядзі, цюцька, пад лаўкай і не гаўкай.

**В чужой монастырь со своим уставом не ходят** — Чужы сказ мне не ўказ.

**В чужом пиру да похмелье** — У каго вяселле, а ў мяне пахмелле.

**Где силой взять нельзя, там надобна ухватка** — Не дзяўбі дупла, у гатовае лезь.

**Говорят, что кур доят** — Твая праўда, як у рэшаце вада.

**Голова — всему начало** — Каваль робіць людзьмі, а не грудзьмі.

**Голодному Федоту и пустые щи в охоту** — Як не пад'ясі, то і сваіх (святых) прадасі.

**Голому разбой не страшен** — Старцу пажар не страшны — за кій ды наўцёкі.

**Гора родила мышь** — Выйшаў пшык, як у таго каваля.

**Горбатого могила исправит** — Не слухае ківа, то паслухае кія.

**Грамоте учиться — всегда пригодится** — Што ўмееш, за плячыма не насіць.=Добра ўсё ўмець, ды не ўсё рабіць.

**Гулять смолоду — помирать под старость с голоду** — Гулі ў лапці абулі.=Скачы, скачы — што ты пад старасць запяеш?

**Дал слово — крепись, а не дал — держись** — Сказаў як звязаў.

**Даст Бог день, даст и пищу** — Будзем жыць як набяжыць.

**Дают — бери, бранят — беги** — Даюць — бяры, б'юць — уцякай.

**Двое дерутся — третий в выигрыше** — Два б'юцца, трэці не лезь.

**Двум смертям не бывать, а одной не миновать** — Круці не круці — трэба памярці.

**Делай дело не спеша, была бы слава хороша** — Паспе́х — людзям на смех.=Паспяшыш — людзей насмяшыш.

**Десятая (седьмая) вода на киселе** — Твая Тэкля маёй Хаўронні стрыечная цётка.

**Дома стены помогают** — Дома і качарга страляе.

**Дорог не обед, а привет** — Не частуй мяне піўцом, а добрым слаўцом.

# дзе і што?

«Галс» — Выбранецкая музычная служба (ВМС). Што ж гэта такое, і чым там займаюцца?

ВМС — гэта маладыя хлопцы, выбранцы, якія збіраюць, захоўваюць і распаўсюджваюць беларускую музыку самых розных накірункаў. Ствараецца музычны архіў (блокі інфармацыі і фанаграм), падрыхтаваны першы каталог запісаў для распаўсюджвання (рок, барды, фальклор), арганізаваны і праведзены першыя вечарыны і канцэрты.

ВМС дапамагае беларускім выканаўцам якасна запісацца, прапагандуе іх творчасць на Беларусі, у Прыбалтыцы, на Захадзе, у беларускіх асяродках ва ўсім свеце.

І ўжо цяпер вы можаце задаць пытанні і зрабіць свае замовы. Кошт паслуг ВМС — не даражэйшы, чым у іншых падобных арганізацыях.

Тэлефануйце: у Менску 24-11-15 (ад 10 да 17, Алена); у Стоўбцах 5-52-02 (увечары, Юрай).

Прыходзьце: вул. Свярдлова, д. 11, п. 114.

Пішыце: 222660, Менская вобл., г. Стоўбцы, вул. Цітова, д. 12, кв. 1, Міхно Юрай.

* * *

*Пад час свайго візіту ў Канаду намеснік старшыні Нацыянальнага банка Украіны Саўчанка зацвердзіў узоры купюр украінскіх грошай для друку, дамовіўся з урадам Канады пра крэдыты для фінансавання гэтага праекта.*

*«Друкаванне ідзе ўжо некалькі тыдняў, і першыя партыі купюр будуць гатовы для перавозу на Украіну ў сакавіку. І калі не будзе нейкіх палітычных перашкод, то мы павінны выканаць работу да канца мая»,— сказаў у інтэрв'ю газеце «Украіна молода» Арэст Новаківськой, віцэ-прэзідэнт кампаніі «Кэнэдыен бэнкноўт».*




*Рубрыку вядзе*
*Лявон БАРШЧЭЎСКІ*

Асаблівае месца ў еўрапейскай паэзіі Сярэднявечча займае паэзія вагантаў («валацужнікаў»), якая стваралася на лацінскай мове вандроўнымі студэнтамі-бурсакамі. Верш «О, удача!», пераклад якога мы змяшчаем ніжэй, узяты з вялікага зборніка «Ка́рміна Бурана» (канец XII — першая чвэрць XIII стагоддзя). Яго аўтар невядомы.

### О, УДАЧА!

О, удача,
Ты — няйначай
Месяц пераменлівы:
Прыбываеш ды ўбываеш;
Доля наша дрэнная
І гартуе,
І лякуе —
Розум наш узрушвае,
Гора ў хаце
Ці багацце,
Нібы лёд раструшчвае.
Лёс жахлівы,
Нешчаслівы —
Так яно здараецца —
Колам вечным,
Бессардэчным
Цалкам разбураецца.
Прыхаваны,
Нечакана
Раптам бліснe ўпотай мне —
Нас чакае
Ўсіх такая
Долечка гаротная.
Лёс збавення
Ды сталення
Мужнага — ён шкодны мне:
Нетрывалы,
Набрынялы
Стратамі заўсёднымі.
Вы няспынна,
Штохвілінна
Сэрцамі хвалюйцеся —
Па праклятых
Бедах, стратах
Вы са мной смуткуйце ўсе.

Пераклад з лацінскай
Лявона
БАРШЧЭЎСКАГА.

## СТАРОНКІ НАШАЙ ГІСТОРЫІ

**У выдавецтве «Навука і тэхніка» накладам у 6750 паасобнікаў выйшла ў свет кніга «Старонкі гісторыі Беларусі», якая разлічана не толькі на спецыялістаў, але і на ўсіх, хто цікавіцца беларускай гісторыяй. Кніга напісана аўтарскім калектывам маладых навукоўцаў Інстытута гісторыі АН РБ. Яна складаецца з трох раздзелаў: «За сівой смугой стагоддзяў», «Беларускае сярэднявечча», «З нядаўняга мінулага». З цікавасцю чытаюцца артыкулы М. Крывальцэвіча «Культ каменных сякер на Беларусі», С. Тарасава «Полацкае княства (Станаўленне і барацьба за дзяржаўную незалежнасць)», Г. Сагановіча «Да гісторыі назвы «Белая Русь», Г. Ласкавага «Узбраенне воінаў VII — VIII стст. з феадальных сядзібзамкаў паўночнага заходу Полацкай зямлі (па матэрыялах раскопак гарадзішчаў Пруднікі і Маскавічы)». Таксама шмат цікавага можна даведацца і ў артыкулах астатніх аўтараў.**

***Проза***

*(Заканчэнне. Пачатак у №№ 5 — 11).*

— Гэта рашаючы доказ, Нікі,— паўтарыў я.

— Доказ? А я ўсё чакаў, калі вы, нарэшце, пачняце аналізаваць доказы,— запярэчыў Нікі Уэлт.

Мы з Эдвардсам здзіўлена глянулі на яго.

— Якія ж я доказы ўпусціў, прафесар? — ганарліва спытаўся Эдвардс.

— Зірніце на здымак пакоя,— адказаў Нікі.— Прыгледзьцеся да шахматнай дошкі і фігур.

Я пачаў уважліва разглядаць фотаздымак, а Эдвардс толькі збянтэжана пазіраў на нас. Размяшчэнне шахматных фігур было нялёгка разабраць, таму што на здымку яны былі рознай велічыні. Але паступова пазіцыя на дошцы пачала для мяне праясняцца.

— Давайце глянем, як гэта выглядае на дошцы,— сказаў я, высыпаючы на стол шахматныя фігуры, і пачаў расстаўляць іх так, як паказваў фотаздымак.

— Калі адзін з ігракоў ляўша,— працягваў Нікі, быццам прачытаў мае думкі,— то збітыя фігуры ляжаць па адзін і той жа бок дошкі — вядома, паасобку: белыя каля ігрока чорнымі, а чорныя каля таго, хто гуляе белымі. Яны не перамешваюцца ў адну кучу, як гэта паказана на здымку, калі толькі...

Я кінуў позірк на шахматную дошку з расстаўленай толькі што мною пазіцыяй і на фігуры, што засталіся на стале.

Нікі кіўнуў галавой, нібы тупому вучню, які, нарэшце, выпадкова натрапіў на правільны адказ.

— Правільна — калі толькі вы не вывалілі іх са скрынкі, а потым узялі патрэбныя, каб расставіць на дошцы пазіцыю па дыяграме.

— Вы лічыце, што замест таго, каб разыграць партыю з самага пачатку, Макнальці дэманстраваў Ольбрэхту варыянт, які яго зацікавіў? — спытаўся Эдвардс. Ён усяляк намагаўся дапяць да

ведаміў свайму калегу Ольбрэхту пра ваш візіт. А Ольбрэхт ведаў, што праверка, праведзеная пабочным чалавекам, можа сёе-тое выкрыць — калі толькі ён не знойдзе казла адпушчэння. Так-так, казла адпушчэння.

Я зірнуў на Эдвардса і ўбачыў на яго твары грымасу, якая бывае ў маленькіх хлопчыкаў, калі ў іх раптам лопне паветраны шарык. Але нечакана вочы яго загарэліся, і ён насмешліва ўхмыльнуўся:

— Усё ў вас вельмі прыгожа на выгляд. Але пабудавана на пяску. Вы забыліся: у мяне ёсць доказ, што гэта было самагубства. Парафінавая проба неабвержна даказвае, што з пісталета страляў Макнальці.

Нікі таксама ўсміхнуўся:

— Гэты ваш доказ — мыльная бурбалка.

— Не,— умяшаўся я.— Парафінавая проба — неабвержнае сведчанне.

— Аб чым яна сведчыць? — не сунімаўся Нікі.— Толькі аб тым, што рука Макнальці знаходзілася на тыльнай частцы пісталета.

— Гэтага мала?

— Дапусцім, нехта пазваніў,— звярнуўся да мяне Нікі са стомай на твары,— вось як, напрыклад, зрабіў палкоўнік Эдвардс, завітваючы сёння да вас, і, калі вы адчынілі дзверы, тыцнуў пісталет вам у грудзі. Якая была б ваша рэакцыя?

— Ну, я... я схапіўся б, каб паспеў, за яго руку, думаю...

— Вось іменна. І калі б ён стрэліў у гэты момант, вам у далонь урэзаліся б парахавыя газы, нітраты гэтыя, таксама, як і ў ягоную.

Палкоўнік нейкі момант сядзеў, нібы кій праглынуўшы. Потым раптам ускочыў з крэсла, схапіў свой партфель і рашуча накіраваўся да дзвярэй.

— Гэта рэчыва не так лёгка змыць,— прагаварыў ён цераз плячо.— А яшчэ цяжэй з вопраткі зняць. Я маю намер падвергнуць Ольбрэхта парафінавай пробе.

Калі, правёўшы палкоўніка, я вярнуўся ў кабінет, Нікі сказаў мне:

— Вашаму прыяцелю не трэба было гэтак спяшацца. Я мог бы прапанаваць яму і іншы доказ — шахматныя фігуры. Не сумняваюся, што апошнія адбіткі пальцаў на іх належаць Ольбрэхту, на тых, што на дошцы,— і на белых і на чорных, і яму цяжка будзе растлумачыць, калі ён будзе ўпарціцца на сваім, як магло пры звычайнай гульні такое здарыцца.

— Правільна, Нікі. Заўтра раніцой я скажу яму.

— Я ў нерашучасці памаўчаў, а потым сказаў, нібы нырнуўшы галавой у вір:

— Чаму Ольбрэхт пайшоў на такую рызыку? Хіба ж не лепш было проста пайсці адтуль пасля забойства Макнальці, а не заставацца там, выклікаць паліцыю, прыдумваць усю гэту гісторыю і...

Нікі, як мне здалося, дайшоў да шаленства:

— Вы не разумееце? Ён не мог уцячы. Трапіў у пастку. Уклаўшы пісталет у руку Макнальці, ён сабраўся бегчы. Але спачатку зірнуў праз шкляныя дзверы на вуліцу, каб упэўніцца, што шлях свабодны. І раптам на процілеглым баку вуліцы заўважыў Троўбрыджа, які плёўся на станцыю. Ольбрэхт пачакаў хвіліну-другую, зноў глянуў на вуліцу і ўбачыў, што малады чалавек спыніўся якраз насупраць дома і не паказваў ніякага намеру ісці далей. Праз некалькі хвілін па вуліцы павінны былі прайсці пасажыры з олбанскага цягніка, а неўзабаве пасля гэтага мог з'явіцца і палкоўнік Эдвардс, крыху раней часу.

— Значыць, мая праверка Троўбрыджа аказалася не зусім дарэмнай? — усклікнуў я, радасна паціраючы рукі.— Прынамсі, у мяне на адно ачко больш, чым у Эдвардса!

Нікі згодна паківаў галавой:

— Нахабнаваты малойчык гэты палкоўнік. У якіх часціх, ён казаў, што служыў?

— У разведвальных.

— А я трубіў у пяхоце.

**С англійскай мовы
пераклаў
Сямён ДОРСКІ.**

*Гары КЕМЕЛМАН*

# З. ВЕРАГОДНАСЦЬ ПРОЙГРЫШУ

Нікі сачыў за мной з сардонічнай усмешкай, пацяшаючыся з маёй няздольнасці зразумець пазіцыю проста з фатаграфіі. Эдвардс трывожна пераводзіў позірк то на аднаго, то на другога з нас, амаль гатовы да таго, каб раптам убачыць на шахматнай дошцы імя злачынца.

— Калі ў гэтых шахматных фігурах хаваецца які-небудзь ключ ад таямніцы,— нарэшце прамовіў ён,— я хачу сказаць — у пазіцыі на дошцы, мы можам зверыць тое, што ў вас атрымалася, з арыгіналам. На месцы здарэння нічога не было кранута, а дом апячатаны.

Я нецярпліва крутнуў галавой, цалкам засяроджаны вывучэннем пазіцыі. Неўзабаве яна пачала набываць для мяне пэўны сэнс, і, нарэшце, я ўсклікнуў:

— Гэта ж гамбіт Логана — Асквіта! Як дакладна яны яго разыгралі!

— Ніколі не чуў пра такі гамбіт,— прызнаўся Нікі.

— Я таксама нічога не ведаў пра яго, пакуль Макнальці не паказаў мне з тыдзень назад ва універсітэцкім клубе. Ён натрапіў на яго ў лавенштэйнаўскім «Эндшпілі». На практыцы гамбіт гэты амаль не сустракаецца, таму што вельмі рызыкоўны, але арыгінальны. Вам не прыйшло ў галаву, Нікі, што чалавек, які быў страшэнна расстроены і надумаў пакончыць з сабой, наўрад ці ўзяўся б разыгрываць такі цяжкі варыянт, ды яшчэ так дакладна?

— Прызнацца, мяне цікавяць не фігуры, што на дошцы,— ціха адказаў Нікі,— а фігуры, што каля дошкі,— збітыя фігуры.

— А што ў іх такое?

— Усе яны ляжаць па адзін бок дошкі — і чорныя і белыя.

— І што?

На твары Нікі адлюстраваліся роспач і вострая туга, і голас яго гучаў ледзь чутна, калі ён узяў на сябе клопат тлумачыць тое, што, на яго думку, было відавочна:

— У шахматы гуляюць такім жа чынам, як пішуць ці, напрыклад, трымаюць тэнісную ракетку. Калі вы не ляўша, то перасоўваеце фігуры правай рукой, той жа рукой знімаеце з дошкі фігуры праціўніка і кладзяце на стол справа ад сябе. Калі два такія ігракі, як Макнальці і Ольбрэхт, гуляюць у шахматы, збітыя фігуры чорных ляжаць па правы бок ад іграка белымі, а па дыяганалі цераз дошку на стале ляжаць фігуры белых, якія збіў ігрок чорнымі.

У галаве маёй мільгануў вобраз Троўбрыджа, якім я бачыў яго раніцой: ён запальваў левай рукой цыгарэту, бо правая рука вісела на чорным шоўкавым тальмаху.

сэнсу, і позірк яго зрабіўся адсутным, калі ён памкнуўся знайсці для шахмат належнае месца ў тым, што здарылася. Нарэшце ён пакруціў галавой.— Не мае ніякага сэнсу,— абвясціў ён.— Навошта ж было Ольбрэхту сцвярджаць, што яны з Макнальці гулялі ў шахматы?

— Давайце і пачнём з Ольбрэхта,— падахвоціўся Нікі.— Дапусцім, што менавіта Ольбрэхт расставіў фігуры на дошцы.

— У мяне ёсць пярэчанне,— перабіў яго Эдвардс.— З якой мэтай ён ілгаў?

— А з ніякай,— адказаў Нікі,— у тым выпадку, калі ён расставіў іх да таго, як быў забіты Макнальці. Але дапусцім, што Ольбрэхт зрабіў гэта пасля смерці Макнальці.

— Навошта яму было так рабіць? — ваяўнічасць Эдвардса ўзрастала па меры росту яго адчаю.

Нікі летуценна ўтаропіў свае блакітныя вочы на столь:

— Таму што пачатая гульня ў шахматы наводзіць на думку, што, па-першае, ігрок правёў нейкі час у гасцях, прынамсі, з пачатку гульні, і, па-другое, што ён быў з гаспадаром у прыяцельскіх адносінах. Наўрад ці ёсць патрэба дадаваць, што, калі наўмысна спрабуюць унушыць адразу дзве рэчы, то зусім верагодна, што ніводная з іх не адпавядае ісціне.

— Вы сцвярджаеце...

— Я сцвярджаю,— упэўнена прамовіў Нікі Уэлт,— што прафесар Лютэр Ольбрэхт прыбыў на а восьмай гадзіне вечара пазваніў у дом Макнальці і, калі гаспадар адчыніў яму дзверы, прыставіў пісталет тыпу «люгер» да яго грудзей і націснуў на спуск. Потым сунуў зброю ў руку забітага, пераступіў цераз цела і расставіў на шахматным століку фігуры,— спачатку высыпаўшы іх са скрынкі,— у адпаведнасці з дыяграмай, якая першай трапіла яму на вочы ў адной са шматлікіх шахматных кніг прафесара Макнальці. Вось чаму пазіцыя на дошцы здаецца вынікам вельмі дакладнай гульні: яна распрацавана шахматным спецыялістам, аўтарам названай маім сябрам кнігі.

Мы з палкоўнікам нерухома сядзелі за сталом і толькі моўчкі пазіралі на Нікі. Першы загаварыў Эдвардс:

— Чаму Ольбрэхт павінен быў забіць яго? Ён жа быў яго другам!

Вочкі Нікі заблішчэлі ад задавальнення:

— Падазраю, што тут ваша віна, палкоўнік. Раніцой вы пазванілі Макнальці па тэлефоне і дамовіліся вечарам пра сустрэчу. Думаю, гэта вельмі ўсхвалявала Макнальці. Сумняваюся, каб ён быў непасрэдным віноўнікам цяжкасцей, што выявіліся пры распрацоўцы праекта, але ў якасці старшага ён за праект адказваў. Напэўна, ён па-

